ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 41 (140) 3 - 9 лістапада 1995 г. Кошт 600 рублёў

МЯСЦОВАЙ "КОНТРЕ" ЗАТКНУЛІ РОТ - ст. 2.

«ЗЭКІ» Ў ЛЕСЕ - ст. 3.

КРЫЛАТЫЯ «КАРДАНЫ» КРЫХУ НЕ ДАЛЯЦЕЛІ... - ст. 8.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ЗНОЎ НА ВЫБАРЫ!

**31 кастрычніка сталі вядомы канчатковыя вынікі рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету па 6 гарадзенскіх гарадзкіх выбарчых акругах і адной сельскай. Канчатковы сьпіс зарэгістраваных кандыдатаў у Вярхоўны Савет стане вядомы ў пятніцу пасьля персанальнай праверкі кожнай кандыдатуры ў Цэнтральнай выбарчай камісіі.**

**Болдзінская акруга N 121**

Яўген Кошалеў, 1946 г.н., рускі, начальнік аддзела контрвыведкі штаба корпусу, беспартыйны;

Надзея Белявец, 1941 г.н., беларуска, загадчык радзільнага аддзяленьня раддома, Партыя народнай Згоды;

Аляксей Мацеша, 1931 г.н., беларус, загадчык кафедры нервовых хваробаў медінстытута, Партыя Камуністаў Беларусі;

**Галіна Осіпава, 1957 г.н., казашка, дацэнт факультэта правазнаўства, Аб'яднаная Дэмакратычная Партыя Беларусі;**

**Горкаўская акруга N 122**

**Сяргей Мальчык, 1960 г.н., беларус, дацэнт кафедры паталагічнай фізіялогіі медінстытута, сябра Партыі БНФ;**

Уладзімір Каваленка, 1937 г.н., беларус, дацэнт кафедры пропедэфцікі ўнутраных хвароб медінстытута, беспартыйны;

Іван Янкоўскі, 1963 г.н., беларус, сьпецыяліст першай катэгорыі адзела дэманапалізацыі і кантроля за выкананьнем антыманапольнага заканадаўства, беспартыйны;

Іван Крэнь, 1936 г.н., беларус, дэкан гістарычнага факультэту універсітэту, Партыя Народнай Згоды;

Віктар Бурбіцкі, 1962 г.н., беларус, токар ВА «Радыёхваля», Партыя Камуністаў Беларусі;

Яўген Крамлёў, 1938 г.н., рускі, загадчык кафедры батанікі універсітэту, ПНД;

**Дзяржынская акруга N 123**

**Валеры Задаля, 1958 г.н., беларус, намесьнік старшыні Гарадзенскага Тэлерадыёаб'яднаньня, сябра Партыі БНФ;**

Сяргей Габрусевіч, 1936 г.н., беларус, прафесар кафедры беларускай культуры універсітэту, Партыя Народнай Згоды;

Уладзімір Шкрэбаў, 1957 г.н., беларус, начальнік зьмены ТЭЦ-2, Партыя Камуністаў Беларусі;

Ірына Герасімовіч, 1954 г.н., беларуска, старэйшы майстар мясакамбінату, Аграрная партыя;

Галіна Гаманчук, 1945 г.н., руская, вядучы эканаміст Белмедтэхнікі, Белорусское Патриотическое Движение;

Іван Калошыц, 1971 г.н., беларус, студэнт універсітэта, Партыя Працы і Справядлівасьці;

Чэслаў Бяляўскі, 1945 г.н., паляк, намесьнік начальніка крымінальнага вышуку УУС аблвыканкаму, беспартыйны;

**Пралетарская акруга N 124**

**Канстаньцін Жынь, 1947 г.н., беларус, начальнік аддзела капітальнага будаўніцтва ВА «Гродназнэрга», Старшыня Гарадзенскай Рады БНФ;**

Анатоль Іванчык, 1941 г.н., рускі, начальнік аддзела кадраў ВА «Радыёхваля», Партыя Камуністаў Беларусі;

Алег Танкевіч, 1951 г.н., беларус, начальнік упраўленьня па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю па Гарадзенскай вобласьці, беспартыйны;

Мікалай Лазараў, 1950 г.н., рускі, эканаміст аддзела сацзабесьпячэньня ВА «Гродназнэрга», Белорусское Патриотическое Движение;

Уладзімір Шароў, 1949 г.н., беларус, начальнік штаба грамадзянскай абароны, беспартыйны;

Валеры Трыбуць, 1947 г.н., украінец, каманьдзір ВЧ 41780, беспартыйны;

Аркадзь Мароз, 1940 г.н., беларус, загадчык аддзела інстытута эканомікі Міністэрства эканомікі, Партыя Працы і Справядлівасьці;

Тамара Кавалеўская, 1952 г.н., беларуска, выкладчыца гісторыі ПТВ N 141, беспартыйная;

**Прынёманская акруга N 125**

**Мікалай Маркевіч, 1962 г.н., беларус, рэдактар газеты «ПАГОНЯ», сябра Партыі БНФ;**

Рэгіна Можджэр, 1950 г.н., полька, дырэктар СШ N 30, беспартыйная;

Яўген Кармільчык, 1953 г.н., беларус, старшыня прафсаюзу «Ліга», Партыя Народнай Згоды;

Вольга Жукава, 1954 г.н., руская, старшыня праўленьня Таварыства абароны правоў спажыўцоў, сакратар гаркама ПКБ;

Іван Музычка, 1936 г.н., беларус, галоўны ўрач медчасткі ВА «Азот», беспартыйны;

**Сувораўская акруга N 126**

Ігар Багдановіч, 1936 г.н., беларус, інжынер вытворча-камерцыйнай фірмы «Гема», беспартыйны;

Іосіф Нячай, 1934 г.н., дырэктар ПТВ Белспажыўсаюзу, Партыя Камуніістаў Беларусі;

Людміла Школьнік, 1941 г.н., старшыня Кастрычніцкага райсавету, беспартыйная;

Міхаіл Патрэба, 1945 г.н., беларус, выкладчык універсітэта, Партыя Народнай Згоды;

**Аляксандр Міхальчык, 1942 г.н., беларус, намесьнік генеральнага дырэктара гандлёва-прамысловага цэнтра «Веста», сябра Партыі БНФ;**

**Гродзенская-Сельская акруга N 127**

Аляксандр Вітко, 1958 г.н., беларус, старшыня Асацыяцыі воінаў інтэрнацыяналістаў г.Горадні, беспартыйны;

**Тадэвуш Гавін, 1951 г.н., паляк, старшыня Саюза Палякаў на Беларусі, беспартыйны;**

Валянцін Ражко, 1941 г.н., беларус, галоўны ўрач абласнога клінічнага шпіталя Горадні, беспартыйны;

Сяргей Стральцоў, 1959 г.н., беларус, намесьнік начальніка райаддзела унутраных спраў Горадні, беспартыйны;

Аляксандр Юрага, 1957 г.н., беларус, галоўны сьпецыяліст аддзела па забесьпячэньню дзейнасьці праваахоўных органаў дзяржаўна-прававога Упраўленьня Адміністрацыі прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці, Аграрная партыя.

***Такім чынам, у передвыбарным марафоне вырашылі прыняць удзел 40 чалавек (калі рыхтуецца гэты матэрыял, вырашаецца пытаньне аб рэгістрацыі члена ЛДП сп.Палешчука). Сярод іх - 16 беспартыйных, 6 камуністаў, па 5 кандыдатаў ад БНФ і ПНЗ, а таксама 9 членаў яшчэ пяці партый. Амаль кожны шосты кандыдат - жанчына (7 з 41). Разам з тым няма ніводнай жанчыны ў акругах N 127 і 122. Самым маладым кандыдатам зьяўляецца студэнт універсітэту Іван Калошыц (25 гадоў). Самым пажылым - член ПКБ Аляксей Мацеша (64 гады). Сярод прэтэндэнтаў на дэпутацкія крэслы толькі адзін дэпутат Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня - рэдактар «ПАГОНІ» Мікола Маркевіч. Астатнія, відаць, спалохаліся грозных папярэджаньняў прэзідэнта. Падаўляючая большасьць кандыдатаў - беларусы. Далёка ня ўсе яны стаяць на глебе ўмацаваньня беларускай дзяржаўнасьці, але ў парламант ненавісна-суверэннай краіны, тым ня менш, лезуць.***

***У параўнаньні з вясновымі выбарамі, у сьпісах кандыдатаў няма такіх вядомых імёнаў, як Уладзімір Сямёнаў, Аляксандр Мілінкевіч, Іван Коўкель, Аляксандр Фядута. Разам з тым, 21 чалавек з удзельнікаў вясеньняй выбарчай кампаніі будуць выпрабоўваць свой лёс і зараз. Прычым некаторыя з іх вясной набралі мізэрную (некалькі сот) колькасьць галасоў выбаршчыкаў і, нягледзячы на гэта, відаць, спадзяюцца на посьпех 29-га лістапада. Некалькі з вясеньніх прэтэндэнтаў, у прыватнасьці, сп.Габрусевіч, Крэнь, Крамлёў, зараз вырашылі пайсьці па іншых акругах.***

***У самы апошні момант у рэгістрацыі было адмоўлена начальніку Галоўнага упраўленьня службы Адміністрацыі прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці сп.Гараеву і начальніку штаба аддзела ўнутраных справаў Ленінскага райвыканкаму сп.Сычэўскаму. Па нашых зьвестках, прычынай гэтага сталі парушэньні пры вылучэньні іх у кандыдаты працоўнымі калектывамі.***

## «ДАРОГА МУСІЦЬ БЫЦЬ... ПРАВЕДНАЙ»

**«Ручнік - дарога ў гэты сьвет для немаўляці, якога на ручнік прымаюць; дарога да Бога - для кожнага, хто схіляе галаў, уздымае вочы ў малітве перад аздобленым ручніком-абразом; дарога да новага, сямейнага жыцьця - для маладых, што ступаюць на ручнік у дзень вясельля; дарога на той сьвет - для нябожчыка, якога на ручніках апускаюць у магілу. Дарога мусіць быць заўжды чыстай, сьветлай, праведнай».**

Гэтыя словы мастацтвазнаўцы Вольгі Дзёмкінай вынесены лейтматывам да выставы ручнікоў, што адкрылася у Дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі пад умоўнай назвай «Повязь часоў». Рэпрэзентацыя экаспазіцыі зьявілася складовай часткай вечарыны памяці продкаў. Усё распачалося літаратурна-музычнай кампазіцыяй, у якой бралі ўдзел навучэнкі вучэльні мастацтваў і музычнага вучылішча. Дзяўчынкі-анёлкі са сьвечкамі ў руках сваёй пранікнёнасьцю зачаравалі ўсіх прысутных.

Крыху пазьней навуковая супрацоўніца музея Аліна Хомка зрабіла спавешчаньне на тэму выставы. Вечарына сталася сапраўдным бенефісам маладой дасьледчыцы - за зьнешняй сьціпласьцю лёгка чыталіся глыбіня і грунтоўнасьць, дасьведчанасьць і валоданьне прадметам. Варта павіншаваць з першым творчым посьпехам і новага музейнага мастака Уладзіміра Фаменку.

Ручнік суправаджае чалавека ўсё жыцьцё, ён зьяўляецца неад'емнай часткай і матэрыяльнай спадчыны, і духоўнай культуры. Апрача ўсяго астатняга, ручнік выконвае і камунікатыўную ролю. Ягоныя арнаманты -гэта перадача інфармацыі з пакаленьня ў пакаленьне. Ручнік уяўляецца гэткай ракой жыцьця і часу. «Вось сымбаль твой, забыты краю родны».

Застаецца дадаць, што экспануемыя прадметы ўзяты з фондасховішчаў абодвух музеяў, а таксама з прыватнага збору Валянціны Волах.

Завяршылася імпрэза непрацяглым камерным канцэртам гарадзенскага інструментальнага трыо ў складзе Натальлі Баранавай, Людмілы Пякарскай і Марыі Вайновіч. Разыходзіліся людзі з пачуцьцём лёгкай душэўнай самотнасьці і прасьветленасьці.

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

## АДЗІН «КВАДРАТ» КАЗЁННАГА ДОМА

**«Пакуль у вобласьці будзе захоўвацца напружаная крымінагенная сітуацыя, нашым турмам і калоніям не наканавана пуставаць», - такую выснову, напэўна, зрабілі ўсе гарадзенскія журналісты, якія прысутнічалі на брыфінгу службы па выкананьні пакараньняў і тылавога забесьпячэньня УУС аблвыканкаму, што адбыўся напрыканцы мінулага тыдня.**

- У параўнаньні з мінулым 1994 годам у гэтым годзе агульная колькасьць зарэгістраваных злачынстваў у вобласьці вырасла на 7,8%. «Кантынгент» сьледчага ізалятару гарадзенскай турмы ў апошні час рэзка зьмяніўся ў бок цяжкага складу злачынстваў, - паведаміў прысутным начальнік службы падпалкоўнік А.Мікалаевіч. - Па некаторых відах (разбоі, рабаваньні) працэнт раскрыцьця зьнізіўся.

Злавіць злачынцу для супрацоўніка ўнутраных спраў яшчэ не апошняя бяда. Забясьпечыць крымінальніку, які знаходзіцца за кратамі, належныя паводле закону ўмовы жыцьця ў сёньняшні час вельмі цяжка. Перапоўненасьць сьпецустаноў стала звычайнай зьявай. У той жа гарадзенскай турме на кожнага «зэка» замест належных 2 квадратных метраў жыцьцёвай прасторы, якая прадугледжана нормай, прыпадае ўсяго 1,1. Адсюль і псіхапатыя, якая лідыруе ва ўсіх турмах сярод іншых захворваньняў, і яшчэ шмат праблем.

Асуджаныя ў сёньняшні час загружаны працай прыкладна на 1/3. Аб гасразьліку сьпецустаноў, такім чынам, казаць не даводзіцца. Гэта азначае, што «зэкі» жывуць большаю часткай за кошт датацый МУС. І калі ўлічыць, што на ўтрыманьне ўсяго адной калоніі ў год расходуюцца мільярды рублёў, агульная сума з бюджэту атрымаецца не такой ужо сімвалічнай.

Між іншым, у незайздросным становішчы знаходзяцца ня толькі самі асуджаныя, але і тыя, хто іх ахоўвае. Недаўкамплектаванасьць, пачынаючы ад баеприпасаў і заканчваючы формай, адсутнасьць ва УУС вобласьці нават такой элементарнай рэчы як дэтэктар валюты, яўна не на карысьць стабілізацыі аператыўнай сітуацыі.

Ці дапаможа радыкальна зьмяніць сітуацыю новы крымінальна-працэсуальны кодэкс, праект якога,кажуць, ужо доўгі час пыліцца ў Вярхоўным Савеце - на гэтае пытаньне самі супрацоўнікі УУС ня могуць адказаць адназначна. Але пабачыць гэты закон у дзеяньні ім усё ж хацелася б.

**Андрэй МЯКІШ.**

**(Іншыя артыкулы, прысьвечаныя тэме гэтага брыфінгу, чытайце на 3-й старонцы).**

## СОРАС ІДЗЕ НА ГОРАДНЮ

**27 кастрычніка ў Горадні ў памяшканьні Тэатра лялек адбылася прэзентацыя праграм Беларускага Фонду Сораса. Кіраўнікі Фонду Пітэр Бэрн, Ігар Таўгень, Алесь Анціпенка і Вераніка Бягун былі афіцыйна прынятыя старшынёй абласнога Савету дэпутатаў Сямёнам Домашам і старшынёй гарвыканкаму Генрыхам Крупенкам.**

- Задача Фонду, - адзначаў яго выканаўчы дырэктар Пітэр Бэрн, цытуючы словы Джорджа Сораса, - садзейнічаць разьвіцьцю адкрытага грамадзтва...

Сумы, якія ахвяраваны Беларускім Фондам Сораса на разьвіцьцё культуры, адукацыі, аховы здароўя, экалогіі, выклікаюць павагу і ўдзячнасьць: 1994 год - больш двух мільёнаў долараў, 1995-ы - больш пяці... У 1996 годзе плануецца, што бюджэт Фонду павялічыцца амаль удвая. Разам з гэтым, узьнікла патрэба ў тым, каб быць бліжэй да патэнцыяльных грантаатрымальнікаў, да тых, каму патрэбна дапамога. Філіі Фонду ўжо створаны ў Віцебску і Гомелі. На чарзе - Горадня...

Адзін вялікі венгр - Стэфан Баторый - ужо пакінуў свой сьлед у гісторыі нашага горада. Хочацца верыць, што Фонд, заснаваны амерыканцам венгерскага паходжаньня Сорасам, таксама ўнясе значны ўклад у разьвіцьцё Прынямоньня.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

## ШУКАЙЦЕ ТРЫ МІЛЬЯРДЫ Ў СЬМЕТНІЦЫ

З 1 лістапада з грашовага абароту краіны выведзены купюры вартасьцю 1,3,5,10 і 25 рублёў. Як заўсёды, насельніцтва даведалася пра гэта толькі тады, калі іх «ваўкі», «рысі» ды «бабры» з «зайцамі» перасталі браць у гандлёвых кропках. На пытаньне, а што мне зараз рабіць з гэтай драбязой, прадаўцы падказвалі: «Ідзіце мяняць у банк!» Зразумела, калі ў мяне трыста тысячаў па аднаму рублю, то ў банк я схаджу, а калі толькі трыста рублёў? Відавочна, што ўсе яны пойдуць у сьметніцу. А калі так зробіць кожны жыхар Беларусі? Атрымаецца, што каля трох мільярдаў рублёў пойдуць у сьметніцу. Вось табе і цуды рыначнага сацыялізму!

**В.М.**

## ЗА НАШУ І ВАШУ ВОЛЬНАСЬЦЬ!

**Міністэрства культуры і друку сумесна з гарадзенскім аблвыканкамам правялі 31 кастрычніка «круглы стол» па праблемах нацыянальных меншасьцяў. У яго працы прынялі ўдзел кіраўнікі ўсіх зарэгістраваных у вобласьці нацыянальных суполак, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі (СМІ), а таксама старшыня Гарадзенскага абласнога Савету дэпутатаў Сямён Домаш і намесьнік міністра культуры і друку Іван Карэнда.**

«Будзьма разам цяпер, каб на мове гэтай зямлі і мовах народаў, што знайшлі тут свой дом, годна гучала слова праўды. Каб ніколі нідзе не брала верх палітыка нацыянальнага шавінізму, не гучалі заклікі да забыцьця і бяспамяцтва, не ўзьнікалі міжнацыянальныя спрэчкі». Гэтыя добрыя і правільныя словы з праекта Звароту «круглага стала» да супрацоўнікаў СМІ, на вялікі жаль, так і ня сталі Зваротам. Тэкст яго чамусьці ня паставілі нават на галасаваньне. І не таму, што прысутныя былі ня згодны з ім. Якраз наадварот.

Ход сустрэчы паказаў, што нават калі майстры брудных справаў і захочуць утварыць на Гарадзеншчыне штосьці накшталт Прыднястроўя, Абхазіі ці Карабаху, зрабіць гэта будзе нялёгка. «Рускую карту», «Польскую карту» цяжка разыграць на Гарадзеншчыне, дзе на працягу амаль тысячы гадоў людзі розных нацыянальнасьцяў жылі без этнічных і канфесійных канфліктаў. І зусім немагчыма, калі і надалей мы будзем сустракацца, раіцца, сумесна працаваць над пабудовай Беларускага Дому. Дому, дзе кожнаму будзе ўтульна.

**Мікола ТУРАВЕЦ.**



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ ДЭПУТАТАЎ АПАЗІЦЫІ БНФ У ВЯРХОЎНЫМ САВЕЦЕ

**На Беларусі ўстаноўлены аўтарытарны рэжым карпаратыўнага зьместу. Беларусь ня можа называцца дэмакратычнай і прававой дзяржавай, таму што тут фактычна ліквідаваны падзел уладаў, манапалізаваныя сродкі масавай інфармацыі і абмежаваная свабода друку, парушаюцца правы чалавека.**

**Улада ў краіне ўзурпавана прэзідэнтам і ягонымі саўдзельнікамі. Імі зьнішчаецца парламантарызм і мясцовае самакіраваньне, не выконваецца Канстытуцыя і законы, захоплены і раскрадаецца дзяржаўны бюджэт.**

На патрабаваньне парламанту даць згодна Канстытуцыі справаздачу аб выкарыстаньні бюджэтных грошай ні міністр фінансаў, ні старшыня Кабінету міністраў, ні прэзідэнт на сесію Вярхоўнага Савету не зьявіліся. А між тым высьветлена, што за сем месяцаў 1995 г. на ахову здароўя выкарыстана толькі 29% запланаваных сродкаў, амаль столькі ж на культуру, а на ўтрыманьне прэзідэнта, яго адміністрацыі, службаў і органаў дзяржаўнага кіраваньня - 95 працэнтаў. (Гэта значыць, за паўгода выкарыстаны амаль увесь гадавы бюджэт, запланаваны па гэтых артыкулах). Прэзідэнцкае атачэньне разьязджае на дарагіх аўтамабілях з вялікім шыкам. Браніраваны «Мэрсэдэс» прэзідэнта каштуе 350 тыс.долараў (4 025 000 000 рублёў). Штодзень на ахову прэзідэнта, якой ён акружыў сябе, выдаткоўваецца 40 тысяч долараў (460 000 000 рублёў). Спартыўны комплекс і тэнісны корт прэзідэнта ў Драздах выльецца больш як у 70 тысяч долараў (805 000 000 рублёў).

А тым часам прэзідэнт, парушаючы Канстытуцыю і Закон, здымае апошнюю сацыяльную абароненасьць з ветэранаў і абмяжоўвае сродкі пеньсіянераў, бо ў выніку шкоднай палітыкі і некампетэнтнасьці за год прэзідэнцтва канчаткова разбурана эканоміка і паралізаваная фінансава-крэдытная сістэма.

Адкуль жа бяруцца сродкі для А.Лукашэнкі? Кіраўніцтва справамі прэзідэнта забрала сабе больш за 200 адміністрацыйных будынкаў, якія здаюцца ім у арэнду па 30 долараў за квадратны метр. Чалавек, які казаў пра барацьбу з карупцыяй, ператварыў дзяржаўную ўстанову ў магутную помпу па выцягваньню грошай. Але і гэтых грошай недастаткова для задавальненьня ўсіх капрызаў. Сродкі выцягваюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Грошы, адпушчаныя па бюджэту ахвярам Чарнобыля, зьніклі нямаведама куды. Каб схаваць гэта, прэзідэнт, парушаючы Канстытуцыю, сваім указам зьмяняе Закон і пазбаўляе выдзеленых бюджэтам сродкаў людзей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы. Затое асабісты самалёт А.Лукашэнкі, які ён нядаўна займеў, абыйшоўся бюджэту ў незапланаваныя 45 мільёнаў долараў (517 500 000 000 рублёў). Асабістых самалётаў, дарэчы, ня маюць ні прэзідэнт Жак Шырак, ні канцлер Гельмут Коль, хоць Францыя і Нямеччына вельмі багатыя краіны.

Кантраляваць бюджэт і спыніць гэтае злачыннае свавольства выканаўчай улады можа толькі парламант. Такая функцыя парламанту. Вось чаму А.Лукашэнка імкнецца ліквідаваць існуючы парламант і не дапусьціць выбраньня паўнацэннага новага парламанту. Вось чаму прэзідэнтам паралізаваныя выбары на Беларусі. Вось чаму ім захоплена радыё і тэлебачаньне і асноўны тыражны друк. Вось чаму сыплюцца пагрозы журналістам, бастуючым рабочым, дырэктарам прадпрыемстваў, старшыням калгасаў, прадпрымальнікам, міліцыі, судам, пракуратуры, дзяржаўным служачым, дэпутатам, усім іншадумцам і ўсім, хто ведае і разумее, які крымінал адбываецца на Беларусі.

Каб пазьбегнуць адказнасьці за параліч эканомікі, фінансаў, раскраданьне бюджэту, захоп дзяржаўнай маёмасьці А.Лукашэнка і яго саўдзельнікі гатовыя прадаць Беларусь Расеі і ліквідаваць беларускую дзяржаву. Яны праводзяць капітулянцкую палітыку перад расейскімі нафтавымі, газавымі, гандлёвымі вараціламі і мафіяй, якія зацікаўленыя захапіць маёмасьць на Беларусі і ператварыць нашу краіну ў бясплатны прахадны двор.

А.Лукашэнка фактычна здаў нашу дзяржаўную мытню, мяжу і транзіт Расеі. У выніку рэзка павялічыўся кошт многіх тавараў, што завозяцца на Беларусь (алей, цукар, аўтамабілі і інш.), а на транзіце наша краіна церпіць мільярдныя страты.

2 кастрычніка А.Лукашэнка заявіў па тэлебачаньні, што ён не за чэкавую, а за грашовую прыватызацыю. Гэта значыць, што народ будзе адлучаны ад прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. Яе скупяць тыя, у каго вялікія нарабаваныя грошы - мафія і расейскія разбагацелыя людзі, якія атрымаюць магчымасьць скупляць. Для беларусаў застанецца - залежнасьць і жабрацтва.

Здача нацыянальных інтарэсаў Беларусі, імкненьне ліквідаваць дзяржаву і дзяржаўную незалежнасьць - зьяўляюцца злачынствам. Гэта вельмі небясьпечна яшчэ і тым, што ўцягне наш народ у ваеннапалітычныя дзеяньні Расеі, у расейскія войны, у распад яе хворай мафіёзна-бюракратычнай эканомікі, у бедлам крымінальных стасункаў. Сёньня на Беларусі па афіцыйных зьвестках больш за 300.000 чалавек, якія прыехалі нелегальна ( у асноўным з Сярэдняй Азіі і Каўказу). Як сьведчаць праваахоўныя органы, шмат хто вязе да нас наркотыкі і зброю, зьдзяйсьняе крымінальныя злачынствы. Гэта сьледства адкрытай мяжы з усходнім суседам.

Нельга дапусьціць, каб грамадзяне Беларусі ізноў сталі атрымліваць цынкавыя труны з чужых брудных войнаў. Нельга дапусьціць, каб нашае нацыянальнае багацьце, маёмасьць захапілі чужыя «грашовыя мяшкі» і прайдзісьветы. Нельга дапусьціць страты дзяржавы і суверэнітэту, бо толькі незалежная дзяржава можа забясьпечыць і абараніць усе правы яе грамадзянаў. Дзеля гэтага дзяржава павінна быць ня толькі вольнай, але і дэмакратычнай . Павінен быць абраны народам парламант, які зробіць добрыя законы і пракантралюе выкарыстаньне грошай у краіне. Не павінна стварацца манаполія ўлады аднаго чалавека. Народ не павінен самаўхіляцца да вырашэньня свайго лёсу. Інакш ім будуць кіраваць і памыкаць авантурысты, узурпатары, злодзеі, тыраны, псіхічна неўраўнаважаныя індывідумы, якія давядуць краіну да пагібелі.

Становішча, якое складаецца на Беларусі, сьведчыць аб тым, што падрыхтоўваецца крах беларускай дзяржавы. Прычына краху - палітыка прэзідэнта А.Лукашэнкі і яго атачэньня.

Банкруцтва і няздольнасьць А.Лукашэнкі і яго саўдзельнікаў разумна кіраваць, шкоднасьць іхнай дзейнасьці відавочныя. Грамадзяне Беларусі, спадзяемся, разумеюць становішча і зробяць адпаведныя высновы.

**Дэпутаты Вярхоўнага Савету: З.Пазьняк, Г.Сямдзянава, С.Навумчык, В.Голубеў, П.Папкоў, І.Германчук, Л.Баршчэўскі, А.Шут, А.Трусаў, М.Маркевіч.**

## МЯСЦОВАЙ «КОНТРЕ» ЗАТКНУЛІ РОТ

**У надзвычай нервовай абстаноўцы прайшла і датэрмінова скончылася сустрэча гарадзенскага клуба ветэранаў з мэрам Горадні. Напачатку ўсё ішло па плану: сп.Крупенка дыпламатычна адказваў на пытаньні накшталт «Чаму насупраць помніка «легендарнаму палкаводцу Сакалоўскаму» у вакне будынка «вісіць Пазьняк» - гэта зьневажае памяць пра героя?», «Чаму вуліцы пераймяноўваюць і прысвойваюць ім імёны «подонков, врагов народа»?», «Калі скончыцца акупацыя Горадні?» і г.д.**

Абстаноўка пачала накаляцца, калі размова дайшла да будучых выбараў, у якіх дзеячы клуба ветэранаў зьбіраюцца браць актыўны удзел. Пра гэта засьведчыў і накіраваны імі раней ліст да Лукашэнкі з патрабаваньнем забараніць БНФ. Нечакана для арганізатараў сустрэчы высьветлілася, што ня ўсе ў зале падзяляюць афіцыйна-ветэранскі пункт гледжаньня. Некалькі жанчынаў у зале паспрабавалі ўстаць на абарону Зянона Пазьняка. Што тут пачалося! «За сколько вас Позьняк купил?», «Заткнитесь!», «Где напились?» и г.д. Яшчэ крыху, здавалася, і нямоглыя з выгляду дзядкі разарвалі бы гэтых жанчынаў на кавалкі. Тым часам з трыбуны адзін з кіраўнікоў ветэранскай арганізацыі выкрываў «местную контру» - Дэмакратычнае аб'яднаньне ветэранаў. «Создались тут неизвестно кем и для чего... Встали под знамёна БНФ!»

Апагеем сустрэчы стаў лист клуба ветэранаў да «ветеранов города Сморгони и района». Цытуем:

«Ветераны войны, труда и Вооруженных сил областного центра с удивлением и возмущением восприняли известие о выдвижении Зенона Позьняка кандидатом в депутаты Верховного Совета от Сморгони. В Минске он получил 42% голосов. Активисты БНФ и того меньше. В Могилёве потерпел поражение «бэнээфовец» Булахов. Не помогло Позьняку и театрализованное представление 12 апреля, так называемая голодовка депутатов. Когда после этого они несколько дней отсутствовали, парламент утвердил государственным праздником 7 ноября. Побывав в Гродно 24 июля и 3 сентября Позьняк понял, что большинства голосов тут не получит. Его отвергли в Лиде и даже на родине - в Ивьевском районе.

Мы обращаемся к вам с рекомендацией - подготовьте избирателей города, района и откажите Позьняку в своём доверии. Этим вы убедите общественность области и республики в своём сплочении, организованности и авторитете!»

Пасьля гэтага звароту спрабаваў узяць слова старшыня Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў сп.Мельнікаў. Аднак пачаўся тупат, грукат, галасаваньне, каб «не пушчаць», і ўрэшце рэшт «зламаўся» мікрафон. Спробы кіраўніка «контры» гаварыць без мікрафона захлынуліся ў шуме сьпешна пачаўшых эвакуацыю з залы ветэранаў. Аматары павучаць аказаліся няздольнымі слухаць...

**В.МАЛЬСКІ.**

**Гэта запіска была адрэсавана Пазьняку падчас яго выступу у драмтэатры.**

Если не трус, зачитай перед залом.

Смотрю на тебя подонок и ума не приложу, как уцелел ты от моей пули когда в 1944-45гг. мы очищали Беларусь от нечести - такие как ты и тебе подобных.

Как бы я всадил тебе по рукоятку нож между лопаток, жалею себя сидеть за педораста женика в 53 года придётся.

Будь проклят подонок ты горе нашего народа

= участник встречи.
3.IX95 г. Гродно

## СЬЛЕДЗТВА ЗАЙШЛО Ў ТУПІК

**Пракуратура рэспублікі прыпыніла рассьледваньне крымінальнай справы па факту зьбіцьця ноччу 12 красавіка ў будынку парламанту дэпутатаў, абвясьціўшых галадоўку. Сьледчы Язэп Бролішс, якому было даручана рассьледваньне абставін выгнаньня парламантарыяў з Авальнай залы, патлумачыў, што «справа прыпынена ў сувязі з невысьвятленьнем асоб, якіх трэба прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці ў якасьці абвінавачваемых».**

Тым ня менш, на зьдзіўленьне самога Язэпа Бролішса, сьледству і так ўдалося даведацца дастаткова шмат. Устаноўлена, што ў штурме залы прымалі ўдзел 2 роты ўнутраных войскаў (ВЧ 3214 і ВЧ 5448) у колькасьці 80 чалавек, 86 амонаўцаў, 24 міліцыянты з Галоўнага Упраўленьня Дзяржаўнай Аховы. Практычна ўсе яны былі дапытаны сьледчымі. Аднак, у «эвакуацыі» дэпутатаў вельмі актыўны удзел прымала яшчэ адна група «спецназовцев», ведамасная прыналежнасьць якой так і засталася нявысьветленай. Сьледства мела дадзеныя, што гэта былі супрацоўнікі групы «Альфа» - падраздзяленьня па барацьбе з тэрарызмам Камітэта Дзяржбясьпекі. Але КДБ гэты факт адмаўляе. Ня выключана, што да аперацыі па выгнаньню дэпутатаў маглі быць падключаны і супрацоўнікі аховы прэзідэнта.

Праўда, для целаахоўнікаў А.Лукашэнкі, падобна, законы ня пісаныя. На неаднаразовыя звароты Пракуратуры ў службу аховы прэзідэнта не было ніякага адказу. Незаменнай крыніцай доказаў віны канкрэтных асобаў у зьбіцьці дэпутатаў (тое, што парламентарыям нанесьлі цялесныя пашкоджаньні, сьледствам даказана) мог бы стаць відэазапіс гэтых падзей. Супрацоўнікі МУС, якія здымалі аперацыю, на допыце заявілі, што перадалі відэакасету тагачаснаму кіраўніку Адміністрацыі прэзідэнта Леаніду Сініцыну. Але пасьля шматлікіх зваротаў да спадара Сініцына, Пракуратура атрымала толькі копію відэазапісу, на якой адсутнічаў якраз момант «эвакуацыі» дэпутатаў.

Такім чынам, Пракуратуры стала зразумела, што сабраць доказы шляхам сьледства немагчыма. Сьледства адчувае сябе безабаронным перад высокастаўленымі парушальнікамі закону, ігнаруючымі Пракуратуру. Прыцягнуць да адказнасьці тых, хто аддаваў загад штурмаваць Авальную залу, сьледства таксама ня можа, паколькі ня высьветленыя ўсе абставіны здарэньня. Спадар Бролішс сказаў: «Як мы можам прад'яўляць абвінавачаньні таму ж Цесаўцу (начальнік Галоўнага Упраўленьня Дзяржаўнай Аховы) ці Агальцу (камандуючы ўнутранымі войскамі), калі дапытаныя намі ваеннаслужачыя адмаўляюць прымяненьне сілы ў дачыненьні да дэпутатаў. А адных паказаньняў ахвяр недастаткова».

Аднак спадар Бролішс лічыць, што час на расьледваньне згублены не дарэмна. Немалаважным, на яго думку, зьяўляецца ўжо тое, што ўдалося даказаць факт зьбіцьця парламантарыяў і незаконнасьць іх выгнаньня. А вінаватыя, магчыма, усё ж такі будуць выяўлены і пакараны. Як толькі зьявяцца новыя факты ці паказаньні сьведкаў, сьледства адразу будзе адноўлена.

## ЗАСТАНЬЦЕСЯ Ў ПАМЯЦІ ДЗЯЦЕЙ СУМЛЕННЫМІ!

**Паважаны ўзрост ветэрана, яго гонар абавязваюць жыць у згодзе з праўдаю! Ці было гэта так 26 кастрычніка ў Доме афіцэраў, дзе сабраліся ўдзельнікі клуба ветэранаў, даўно ўжо сівыя, хворыя і, відаць, закамянелыя ў хлусьні і няпраўдзе людзі?**

Сорам нам, паважаныя ветэраны працы, вайны! Сустрэча сп. Зянона Пазьняка з грамадзянамі Горадні 3 верасьня 1995 г., яго зварот да народу быў аргументаваны, інтэлектуальны і інтэлігентны. Антынародных заклікаў не было! Ваш ліст да грамадзян Смаргоні, абвінавачваньне сапраўднага патрыёта самастойнай, пакутнай Беларусі і нахабная перашкода выступленьню ветэрана Мельнікава (таварыша па ўзросту і працы), як быццам сапсаваўся мікрафон, - яшчэ раз яскрава пацьверджвае Вашу хлусьню, да якой вы, на жаль, заклікаеце. І пакінуць гэтыя зьдзекі вам не пад сілу.

Вельмі дарэчы кіраўнік улады горада закрануў пытаньне аб разьмяшчэньні новых могілак. Ці яно не актуальнае для нас? Мо лепш думаць аб гэтым, каб застацца ў памяці дзяцей нашых сумленнымі, справядлівымі?

**Група сяброў Дэмакратычнага Аб'яднаньня ветэранаў.**

## ЛУКАШЭНКУ ЗНОЎ НЕ ЗРАЗУМЕЛІ

**30 кастрычніка Канстытуцыйны Суд па просьбе праламанту разгледзеў на прадмет суадноснасьці Канстытуцыі папраўкі ў Закон аб выбарах народных дэпутатаў. Прынятыя папраўкі зьніжалі планку яўкі выбаршчыкаў (пры якой выбары лічацца адбыўшыміся) на другі тур парламанцкіх выбараў з 50 да 25 працэнтаў. Рашэньне прынята пры адной асобнай думцы суддзі Васілевіча.**

На слуханьнях па справе выступіў старшыня парламанцкай камісіі па заканадаўству Д.Булахаў, які заявіў, што прынятыя папраўкі не супярэчаць беларускаму заканадаўству. Сьпікер парламанту М.Грыб паведаміў, што ў Канстытуцыі не абумоўлена працэнтная яўка выбаршчыкаў. «Гэта значыць, - заявіў сьпікер, - ні 50 ні 25 працэнтаў быць не павінна. Выбары павінны быць прызнаныя адбыўшыміся ад тых, хто прыйшоў. Галасаваць ці не галасаваць - справа кожнага».

**СІМ**

# ЦІ ПРАЦЯГНЕ АЛЯКСАНДР РЫГОРАВІЧ РУКУ «НИЩИМ И ОСКОРБЛЁННЫМ»?

**У мінулым нумары нашая газета паведамляла пра становішча на тонкасуконным аб'яднаньні, дзе рабочыя выказалі недавер генеральнаму дырэктару - сп.Пятру Лубянько. 25 кастрычніка на аб'яднаньні прайшоў сход працоўнага калектыву. На ім прысутнічаў віцэ-прэзідэнт канцэрну Беллегпрам сп.Бураў, прадстаўнікі гарадзкіх і абласных уладаў. Сустрэчы папярэднічаў працоўны сход 20 верасьня, удзельнікі якога накіравалі ліст прэзідэнту і прэм'ер-міністру Беларусі.**

«Даводзім да вашага ведама, што нашае прадпрыемства шосты месяц стаіць. Больш паўтары тысячы чалавек пазбаўленыя элементарных сродкаў для жыцьця. Людзі ад безвыходнасьці губляюць розум (у прамым сэньсе слова - аўт.), ня ведаюць, што рабіць далей.

Наш генеральны дырэктар сп.Лубянько ня бачыць персьпектывы існаваньня нашага аб'яднаньня, заняў пазіцыю «паляўнічага ў кустах», давёўшы пры дапамозе дзяржаўных законаў прадпрыемства да развалу, каб пры зручным моманьце прыбраць яго з «кампаніяй» да рук.

Аляксандр Рыгоравіч, працягніце руку дапамогі «нищим и оскорблённым» людзям!»

Ці адгукнецца прэзідэнт на крык аб дапамозе? Ды і ці можна ўвогуле дапамагчы? Большасьць прысутных, аднак, цікавіла іншае пытаньне: «Хто вінаваты?» Дырэктар абвінавачваньні рабочых адхіліў: «Я такі ж, як і вы. Нават элементарнай машыны сабе не купіў!» Ва ўсім, на яго думку, вінаватая дзяржава, якая штучна стрымлівае курс долара.

Да сакавіка прадпрыемства працавала больш-менш стабільна. Больш таго, нават была павышаная стаўка мінімальнай зарплаты: са ста тысячаў да трохсот. Зразумела, што адразу падскочылі кошты на прадукцыю. Здавалася б, гэта нядрэнна, але тавар, вырабляемы на аб'яднаньні, і так быў неканкурэнтназдольны з-за нізкай якасьці, а калі яшчэ і падаражэў, дык увогуле стаў нікому не патрэбны. Няма прыбытку ад вырабляемай прадукцыі - няма грошай на зарплату, на аплату паслуг энергетыкаў і г.д.. Давялося браць пазыкі ў банках пад працэнты. Сёньня памер гэтых пазыкаў дасягнуў астранамічных памераў. У выніку прадпрыемства стала, людзі засталіся без зарплаты.

Як выйсьці з гэтага становішча? Пра бесперсьпектыўнасьць «уліваньня» грошай з абласнога бюджэту мы пісалі ў мінулым нумары.

Выказаныя галоўным інжынерам аб'яднаньня спадзяваньні, што ўдасца вярнуць 4,5 мільярды рублёў, запазычаныя іншымі прадпрыемствамі, - таксама вельмі ілюзорныя: тая ж лідзкая абутковая фабрыка, якая запазычыла 2,5 мільярды, сёньня проста ня ў стане выплаціць такія грошы.




Няма надзей і на тое, што ўдасца палепшыць асартымент і якасьць прадукцыі. Абсталяваньне на аб'яднаньні, па-першае, загружана пакуль старой прадукцыяй, а па-другое, настолькі састарэла, што няма чаго і планаваць зрабіць на ім штосьці якаснае.

Для хоць нейкага паляпшэньня фінансавага становішча, на погляд некаторых удзельнікаў сходу, можна было б прадаць частку маёмасьці: пляцоўку ля старога маста праз Нёман, палац тэкстыльшчыкаў, дзіцячыя садкі па вуліцы Падольнай, дзіцячае лецішча ў Пышках. Але ў зале хутка знайшліся ворагі гэтай ідэі: «Камерсантам за капейкі не прададзім! Паехалі да прэзідэнта!»

Што ж, можна і да прэзідэнта. «Запусьціў» іншыя прадпрыемствы, «запусьціць» і гэтае.

У цяжкім стане знаходзіцца сёньня ўся лёгкая прамысловасьць краіны. Сярэдняя заробная плата па галіне сёньня на 300 тысячаў ніжэй, чым у цэлым па прамысловасьці Беларусі. Толькі ў гэтым годзе вытворчасьць прадукцыі зьнізілася на 35%. Толькі 18 з 73 прадпрыемстваў галіны змаглі павялічыць вытворчасьць. Нашае тонкасуконнае аб'яднаньне займае ў гэтым сьпісе «пачэснае 69-е месца. І гэта пры тым, што колькасьць інжынерна-тэхнічных работнікаў на прадпрыемстве складае 13%, што на 3% больш, чым у сярэднім па галіне.

Сусьветны вопыт паказвае, што ў такіх буйных прадпрыемстваў будучага няма. Без прыватызацыі і падзелу на больш дробныя прадпрыемствы ў сучасных умовах ня выжыць. Па гэтаму шляху прайшлі і зараз нядрэнна працуюць прадпрыемствы Летувы. Парламант Польшчы год таму прыняў закон аб сьпецыяльных эканамічных зонах. Гэтыя зоны могуць дзейнічаць на тэрыторыі нават аднаго буйнога прадпрыемства. Укладальнікі інвестыцый у іх вызваляюцца ад падаткаў з прыбытку, нерухомасьці і зямлі, атрымоўваюць шэраг іншых ільгот. У выніку замест аднаго вялікага стратнага прадпрыемства ўтвараецца дзесяць малых, але прыбытковых. Пры гэтым нават ствараюцца новыя працоўныя месцы.

На сходзе многія выступоўцы заклікалі на выбарах галасаваць за тых людзей, хто паабяцае зьліквідаваць запазычанасці. Але ці ня лепш прагаласаваць за тых, хто ведае, як зрабіць, каб іх не было?

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**
**Фота У.ВЫДЭРКІ.**

**НА ЗДЫМКУ: "Крычыце, і вас пачуюць!" - адзін з момантаў сходу.**

# КАБ ЯШЧЭ І ДОБРАЯ ВОЛЯ

**Ня так даўно «ПАГОНЯ» пісала пра канфлікт вакол Лідзкай царквы Сьвятога вялікамучаніка Панцелеймона. Зараз сітуацыя паляпшаецца. Але дасягнута гэтае паляпшэньне выключна высілкамі і мужнасьцю вернікаў гэтай прафіі. Так, епіскап не прысылае болей нампалітаў-сьвятароў, а гарадзкія ўлады - інсьпектараў па тэхніцы бясьпекі. Але на гэтым іх заслугі сканчаюцца.**

Увесь цяжар будоўлі царквы нясуць на сябе людзі. І тым ня менш, тыдзень таму было зьдзейсьнена перакрыцьцё цокальнага паверха. Пачалося аздабленьне. У планах царкоўнай рады асьвячэньне ніжняга храма царквы да Каляд. На Каляды тут павінна прайсьці першае набажэнства. І ёсьць упэўненасьць, што гэта будзе зьдзейсьнена, бо перакрыцьцё ніжняга храма выклікала небывалы ўздым энтузіязму, што пацягнула за сабой значнае павелічэньне ахвяраваньняў.

Але разам з тым ёсьць імноства «падводных камянёў», якія перашкаджаюць пасьпяховаму працягу будоўлі. Адзін з іх - юрыдычны. Гарвыканкам некалькі год таму зарэгістраваў абшчыну сьвятога Панцелеймона і выдаў адпаведнае пасьведчаньне царкоўнай радзе, але за прайшоўшы час і ў выніку ўсіх канфліктаў склад рады поўнасьцю зьмяніўся. Ніводзін прадстаўнік старой рады не толькі не ўдзельнічае ў будоўлі, але і памаліцца ці проста паглядзець не заходзіць. Здавалася б, няма нічога больш простага: на адным з паседжаньняў гарвыканкаму ануляваць старое пасьведчаньне аб рэгістраці і выдаць новае ўжо тым людзям, што сапраўды працуюць у парафіі і будуюць царкву. Але ж не, адсылаюць у суд сьмяшыць людзей і гнявіць Бога. Новая царкоўная рада ня мае да старой ніякіх маёмасных прэтэньзій, ня хоча мець матэрыяльных. Аднак адсутнасьць пасьведчаньня аб рэгістрацыі стварае мноства праблемаў у юрыдычных і фінансава-маёмасных дачыненьнях з іншымі аб'ектамі гаспадараньня. Праўда, гэтыя няўвязкі нікольки не замінаюць падаткавай інсьпекцыі браць з абшчыны арэндную плату за зямлю ў поўным аб'ёме, як паўнапраўнай юрыдычнай асобы.

Дык ці не пара кіраўнікам горада праявіць добрую волю і дзвесьці ўсё да ладу ў адпаведнасьці са здаровым сэнсам і прызнаць дэ-юрэ тое, што існуе дэ-факта - юрыдычна аформіць абшчыну, якая дзейнічае фактычна, і разьвязаць яшчэ адзін вузел напружанасьці ў горадзе. Што, дарэчы, адпавядала б з ідэямі, выказанымі за нядаўна прайшоўшым «круглым сталом».

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# У ТУРМАХ, СЕДЗЯЧЫ НА «ПАРАШЫ», ЯШЧЭ НЕ СЬПЯЦЬ...

**Традыцыйны брыфінг для журналістаў адбыўся 27 кастрычніка ва Ўпраўленьні ўнутраных справаў па Гарадзенскай вобласьці. Упершыню справаздачу на ім трымала кіраўніцтва службы па выпраўленчых пакараньнях і тылавога забесьпячэньня.**

Сустрэча яшчэ раз паказала, што ў краіне імкліва працягвае расьці злачыннасьць. За 9 месяцаў гэтага года зафіксавана 7310 злачынстваў, што на 530 больш, чым за адпаведны перыяд мінулага года. У іншых абласьцях (акрамя Віцебскай) сітуацыя яшчэ горшая. Напрыклад, на Магілёўшчыне злачыннасьць вырасла на 49,2%! Як сьледзтва гэтага, калоніі і турмы сёньня перапоўненыя. У іх сядзіць зараз больш 53 тысячаў чалавек. Між тым, плошчы выпраўленчых установаў разьлічаныя на 39 тысячаў. У той жа гарадзенскай турме сёньня знаходзіцца 907 чалавек пры ліміце ў 760. На ноч паміж ложкамі кладуць матрацы, каб чалавеку было дзе спаць.

Часткова вырашыць праблему «перанасяленьня» турмаў магло б будаўніцтва новага сьледчага ізалятара. Пляцоўка для гэтага выдзелена ля «Хімвалакна», аднак дзе ўзяць патрэбныя 500 мільярдаў?

Раней вялікая частка асуджаных мела магчымасьць працаваць і зарабляць грошы на сваё ўтрыманьне. Сёньня ў Ваўкавыскай калоніі працуе меньш 1/3 асуджаных, такая ж сітуацыя ў лячэбна-працоўным прафілакторыі N 5. У гарадзенскай турме працай занята ўсяго 40-60 чалавек, вырабы якіх прадаюцца ва ўласнай краме па вуліцы Кірава.

Між тым, на ўтрыманьне аднаго асуджанага сёньня ідзе 7721 рубель. Для тых, хто знаходзіцца пад стражай - 9381 рубель, непаўналетнім - 12500 рублей. Усяго за 9 месяцаў гэтага года на ўтрыманьне турмы пайшло 5 мільярдаў 89 мільёнаў рублёў.

Істотна зьмяніўся і склад асуджаных. Значна больш людзей зараз адбывае пакараньне за рэкет, згвалтаваньне, забойствы ( апошніх у гарадзенскай турме больш 80).

Ёсьць праблемы з дысцыплінай асабовага складу службы па выпраўленьню пакараньняў. Нядаўна адзін з супрацоўнікаў Ваўкавыскай калоніі быў затрыманы пры спробе перадаць асуджаным наркотыкі. Усяго ў гэтым годзе 5 чалавек са штату службы былі асуджаны. Каля 20% супрацоўнікаў маюць стаж працы меньш аднаго года.

Былі на брыфінгу названыя і некаторыя станоўчыя моманты. У прыватнасьці, высьветлілася, што зараз асуджаныя маюць права мець у камеры тэлевізар, чытаць не толькі «ведомственный» «Трудовой путь», але і іншыя газеты. Наведвае рэгулярна турму каталіцкі сьвятар (праваслаўныя вырашылі, што ў гэтай установе сапраўдных веруючых няма). Але, нягледзячы на гэтыя выхаваўчыя меры, раней асуджанымі асобамі ў гэтым годзе было зьдзейсьнена 1018 злачынстваў (кожнае сёмае). Вось і прыходзіцца задаваць сабе рытарычнае пытаньне: «Ці выпраўляюць усё ж такі асуджаных «выпраўленчыя пакараньні»?»

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

# «ЗЭКІ» Ў ЛЕСЕ

**Захапіўшыся позьнімі грыбамі зялёнкамі, заблукаў далёка ў Гарадзенскую пушчу. І сустрэў групу людзей, апранутых яўна не па-мясцоваму, разам з тым, на прыезджых гасьцей непадобных.**

**- Хто вы такія?**

**- Зьняволеныя! - добразычліва адказалі яны і патлумачылі, што далучаны да адной з сьпецкамендатур, працы і заробку няма, таму ласкавая адміністрацыя сьпецкамендатуры адпусьціла іх пасьвіцца ў навакольных вёсках.**

- Ой, паночак, яны да нас, лічы, кожны дзень заходзяць, - пацьвердзіла Марыя Лебядзевіч, - жыхарка аддаленага ляснога хутара, што ў Берштаўскім сельсавеце Шчучынскага раёну. - Сьлёзна просяць, каб далі хоць чым дапамагчы па гаспадарцы, за адзін толькі абед гатовыя ўвесь дзень секчы дровы ці буракі выкопваць. А калі даць яшчэ і кавалак сала на дарогу - рукі цалуюць.

Тое самае казалі жыхары іншых вёсак ды хутароў. Прычым нідзе ня чуў, каб на кантынгент сьпецкамендатур скардзіліся. Такога, каб употай у сараі ды кладоўкі лазілі, не было - толькі просяць. Па-добраму.

Вярнуўшыся з пушчы, патрапіў акурат на брыфінг у абласны УУС, прысьвечаны якраз пытаньням папраўчых установаў. Аказалася, у вобласьці 7 сьпецкамендатур: 2 у гарадзенскім, 3 у шчучынскім раёне. Да траўня ў іх было 1100 асуджаных, зараз, пасьля амністыі, аказалася 840, з якіх для сямісот - гэта першая асуджанасьць: людзі, наогул, ня «конченные». Начальнік аддзела папраўчых устаноў УУС падпалкоўнік Павел Даўгашэй не адмаўляў, што з заканчэньнем палявых работ заняцца сьпецкантынгенту няма чым, а яны ж жывуць за ўласны кошт! Добра тым, якім блізкія і родныя дапамагаюць. Але кожны дзесяты ў сьпецкамендатуру дастаўляецца ледзь ня босы і ў майцы. Як жа яму працаваць, як зазвычай, на вуліцы? Што з ім будзе зімой?

Не адмаўляў падпалкоўнік П.Даўгашэй і тое, што адміністрацыя сьпецкамендатур ідзе на асобныя ўступкі: зьняволеных ня толькі ў бліжэйшыя вёскі адпускаюць, але і дахаты, і не на адзін дзень, а ледзь не на тыдзень, каб ад'еліся. Які сэнс у такім пакараньні?

Адміністрацыя гэта робіць не са сваёй ласкі. Адміністрацыя цудоўна ведае, што такое галодны бунт!

І апошняя, самая горкая лічба: за параўнальна кароткі тэрмін некалькі сот чалавек са сьпецкамендатур адпраўленыя за краты з прычыны парушэньня рэжыму ў куды больш жорсткія ўмовы. І ніхто ня можа сказаць, колькі з іх парушалі рэжым сьпецкамендатур з-за сваёй невыпраўляльнасьці, а колькі - з-за голаду і холаду.

**Алесь НАРБУТ.**

## СУКВЕЦЬЦЕ КУЛЬТУР

12 лістапада ў г.Горадні адбудзецца І Абласны Фестываль Нацыянальнай Песьні, у якім прымуць удзел беларускія, польскія, яўрэйскія, літоўскія, рускія, татарскія мастацкія калектывы.

Урачыстае адкрыцьцё фестываля а 14.00 гадзіне ў Палацы Хімікаў.

**Ул.інф.**

## СУМЕЖЖА

# ЖУРНАЛІСТЫ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

**26-28 кастрычніка ў Алешанах (Рэспубліка Польшча) ладзіўся семінар для журналістаў грамадзка-культурных выданьняў. Фундатарам візіту гасьцей з Беларусі і Украіны быў Форум Цэнтральна-усходняй Эўропы, што заснаваны пры Фоньдзе імя Стэфана Баторыя. Нашую краіну рэпрэзэнтавалі рэдактары, альбо супрацоўнікі такіх часопісаў як «Полымя», «Нёман», «Спадчына», «Маладосьць», «Мастацтва», «Крыніца», «Беларускі гістарычны агляд», «Сьвіцязь», «Калосьсе», а таксама газетаў «Наша Ніва», «Пагоня», «Культура».**

Алешаны - жывапіснае мястэчка пад Кракавам (аналаг беларускай Іслачы пад Ракавам), дзе адпачываюць літаратары з усёй Польшчы. Тут пачынаюцца Карпаты, а чароўна-гарыстыя далягляды ствараюць адпаведны лірычны настрой. Сярод дрэваў пераважаюць стогадовыя дубы і букі.

Прaграма семінару была ня надта насычанай, калі акрэсьліваць болей дакладна - нават расьцягнутай. Цяжка мовіць, ці то было закладзенай задумкай арганізатараў, ці то іх хібам. Пэўна аднасуразмоўцы атрымалі мажлівасьць адвольных гутарак.

Дыскусійны рэй вёў Войцех Заянчкоўскі - дырэктар Форуму Цэнтральна-усходняй Эўропы - дастаткова малады, абаяльны чалавек (падумалася, што ў нас такі ўзрост стэрэатыпна герархічна лічыцца «безпасадным»). У першай сесіі польскімі калегамі была выкладзена роля незалежных выданьняў да 1989 г. У Польшчы гэты год - своеасаблівы пункт адліку, водападзел у грамадзка-культурным жыцьці.

Да азначанага тэрміну штодзённы наклад польскай прэсы вымяраўся 8 мільёнамі, зараз ён складае 3,5-4 мільёны. Аднак колькасьць найменьняў розных выданьняў павялічылася з тысячы тытулаў да 3116. Агульная колькасьць чытачоў у дзяржаве налічвае каля 30 мільёнаў (у іншым вымярэньні 62% насельнікаў).

Падлічана, што сярод «спажыўцоў» друкаванай прадукцыі пераважаюць жанчыны (на 20% больш). Выдаецца каля 100 часопісаў толькі культуралагічнага накірунку, іхны наклад вагаецца ад 300 да 3000 асобнікаў. У сярэднім, кожны чытач абірае па свайму густу тры-чатыры тытулы. Па-ранейшаму, найбольшай папулярнасьцю карыстаецца тыднёвік «Пшэкруй». Асаблівасьцю цяперашняга часу зьяўляецца фармаваньне новага тыпу пакупніка - «чытальніка-праглядальніка». Увага была засяроджана і на тым, што цэнтральнай праблемай усёй выдавецкай справы застаецца вось «надрукаваньне»-»распаўсюджваньне»



*Мар'яцкі касьцёл у Кракаве*

Прадметам абмеркаваньня другой дыскусіі зьявіўся аналіз стану грамадзка-культурных часопісаў у трох краінах. Адразу ж выявілася, што весьці гаворку ў кантэксьце «посттаталітарных, посткамуністычных варункаў» для Беларусі зьяўляецца проста недарэчным, паколькі беларуская дзяржава зараз перажывае апагей антыдэмакратычнасьці. Тым ня менш, пры ўсёй адрознасьці ўзроўняў разьвіцьця, існуюць праблемы агульнага кшталту.

Заключная частка семінару мела тэматам спрэчак ролю эліты ў грамадзтве. Урэшце рэшт прыйшлі да высновы пра пэўны крызіс інтэлектуалізму. У гэтым кірунку неабходна весьці далейшыя дасьледаваньні.

Напрыканцы праграма побыту гасьцей прадугледжвала наведваньне Кракава. Дзівосна гістарычны горад, які заслугоўвае асобнага апавяду. Зразумела, чаму Кракаў навечна ў сэрцы палякаў. І ня толькі іх, бо надта шмат супольных падзеяў, агульных старонак у нашай гісторыі. Галоўны ж плён азначанага семінару - гэта пачатак наладжваньня цьвёрдых стасункаў між выданьнямі трох суседніх дзяржаваў.

**Уладзімір МАЙНІЧ.**

# ЛУКАШЭНКА ДАМОВІЎСЯ З СОРАСАМ?

**Пачало рэалізоўвацца пагадненьне паміж урадам Беларусі і Міжнародным навуковым Фондам (МНФ) - Амерыканскай дабрачыннай арганізацыяй, заснаванай у 1992 годзе Джорджам Сорасам. Пагадненьне, падпісанае ў ліпені гэтага года, датычыла дадатковага фінансаваньня праектаў фундаментальных дасьледаваньняў беларускіх навукоўцаў, якія выйгралі гранты МНФ.**

Гэтаму дакументу папярэднічала дамоўленасьць Дж.Сораса і А.Лукашэнкі аб стварэньні на падставе парытэту аб'яднанага Фонду для працягу дзейнасьці ў Беларусі праграмаў МНФ. Беларускі ўрад ужо пералічыў на рэалізацыю грантаў Міжнароднага навуковага Фонду 250 тысяч амерыканскіх долараў. Такая ж сума надыйдзе ад Джорджа Сораса. 80% аб'яднанага Фонду накіруецца на працяг фінансаваньня доўгатэрміновых 73 грантаў беларускіх навукоўцаў, якія былі раней падтрыманы МНФ. Астатнія 20% будуць накіраваны на фінансаваньне яшчэ 18 праектаў, якія атрымалі высокую адзнаку экспертаў МНФ.

# НА ПЕРАХОДЗЕ «ВАРШАЎСКІ МОСТ» - НОВАЯ ПЛАТА З АЎТАТУРЫСТАЎ

З 15 кастрычніка Брэсцкім гарвыканкамам устаноўлена плата «за аказаньне дыспетчарскіх і санітарных паслуг» сродкам перамяшчэньня, якія рухаюцца па аўтамабільнай дарозе Брэст-Варшава праз памежны пераход «Варшаўскі мост». Спагнаньне гэтай платы, а таксама санітарнае абсталяваньне блізкай тэрыторыі мэрыя даручыла фірме «Приграничный сервис». Кошт паслуг вызначаны наступным чынам: з кожнага аўтобусу - 7 мінімальных зарплат, мікрааўтобусу - 3, з аўтамабіля - 1, матацыкла - 0,2 мінімальных зарплаты. Існуе некалькі катэгорыяў грамадзян, з якіх плата не спаганяецца. Нягледзячы на зразумелае і дакладнае тлумачэньне мэты і неабходнасьці ўвядзеньня падобнага збору, берасьцейскія ўлады ня ўпэўнены, што Пракуратура ня спыніць іх намеры (падобныя выпадкі ўжо здараліся), лічачы, што яны супярэчаць заканадаўству.

**СІМ**

# ТОЛЬКО «ЧЁРНОМУ КОТУ» НЕ ПОВЕЗЛО

**В газете «Пагоня» N25 от 7-13 июля 1995 г. была напечатана статья Сергея Ерша «Пасьляваенны супраціў бальшавіцкім акупантам на Беларусі».**

Тут автор, ссылаясь на заграничную прессу, утверждает, что в послевоенный период на Белорусской земле действовали партизаны против «бальшавіцкіх акупантаў».«Партызанскія аддзелы «Чорнага Ката» на цэлыя тыдні займалі гарады і мястэчкі, затрымлівалі цягнікі, вызвалялі вязьняў» і г.д.

Вот выдержка из газеты:

« ... Наш атрад у лику 500 чалавек разьмясьціўся ў лесе каля в.Літоўка. Была цёмная сакавіцкая ноч 1948 года. Чамусьці ня спалася ...

Дзесь каля 4-й гадзіны голасна загукаў пугач, і за якіх пару хвілін атрад гатовы быў да бою. У суправодзе каманьдзіраў перад атрадам зьявіўся Вітушка. Ен спакойным звонкім голасам звярнуўся да партызанаў:

«Браты партызаны. Я не люблю шмат гаварыць, ды гэта і не патрэбна. За нас будуць гаварыць нашы кулямёты і аўтаматы. Яны за тры гады навучыліся. У нашых руках яны заікацца ня будуць, бо мы ведаем для чаго іх узялі, і ня выпусьцім, пакуль не пераможам ці памром.

Сёньня мы павінны ўзяць Навагрaдак і пакараць катаў нашага народу, будзьце бязьлітаснымі і бясстрашнымі. З Божай дапамогай мы пераможам.

Вітушка паглядзеў на гадзінік: была роўна 5-я гадзіна. Ён перахрысьціўся і пусьціў у неба ракету.

Навагрaдак загуў як вулей. Пачуліся стрэлы стрэльбаў і аўтаматаў, застагнаў кулямёт. Вітушка выцягнуў з-за паяса гранату і, крыкнуўшы: « За мной хлопцы», - кінуў у бок кашараў ...».

Затем автор в художественной форме описывает, как «доблестные партизаны» «Чёрного кота» захватили здание КГБ, кашары, телефонную и телеграфную станции, райком, райисполком, милицию, выпустили из тюрмы 800 чел. заключённых, захватили трафеи: три пулемёта, 650 автоматов, 1300 винтовок, 70 ящиков патронов. Убили 300 чел., расстреляли секретаря райкома партии, начальника КГБ и несколько коммунистов.

«Была 8-я гадзіна раніцы. Калона партызан рушыла ў напрамку в.Літоўка. Са страхі райвыканкаму доўга махаў нам на разьвітаньне бел-чырвона-белы сцяг ...».

***Друкуецца на мове арыгіналу. Трэба адзначыць, што аўтары падаюць цытаты ў скажоным выглядзе (Рэд).***

Такими словами «дасьледавальнік» Сяргей Ёрш закончил выдуманное за рубежом «грандиозное сражение» за Новогрудок в 1948 году.

Но «Чёрному Коту» не повезло. Гор.Новогрудок после «грандиозного боя» не исчез с территории Западной Белоруссии, он существует, в нём по-прежнему живут люди, которые хорошо помнят историю своего края и выражают глубокое возмущение редакции газеты «Пагоня», которая печатает такую ложь.

- Я, Стромский Сергей Григорьевич, с конца 1946 по 1954 г. работал охранником Новогрудской тюрьмы и не помню случая, чтобы на тюрьму кто-то нападал, тем более,как пишет газета «Пагоня» - было освобождение в 1948 г., 800 человек заключённых, ведь в тот период в тюрьме содержалось не более 50-80 человек.

-Какой позор писать в газете то, чего не было, - с возмущением заявляет коренной житель г.Новогрудка Бесараб Сергей Борисович.

«Дасьледавальнік» Сяргей Ёрш в своей статье даже превзошёл Геббельса, который утверждал, чтобы люди поверили, ложь должна быть грандиозной, ошеломляющей.

Для чего газете «Пагоня» спустя почти 50 лет, потребовалась такая безапеляционная ложь? Ответ на этот вопрос мы находим в конце всё той же статьи:

«Думаю сёньня паўстае неабходнасьць рэабілітацыі і ўшанаваньня ў памяці ўдзельнікаў Беларускага Збройнага Рэзыстансу».

Вот где говорится, собака зарыта. Чтобы реабилитировать «отважных» вояк «Чёрного Кота», надо было показать общественности «широкомасштабные» их операции, по крайней мере не уступающие бывшим партизанам Великой Отечественной войны. Но во лжи руки коротки. Как бы не пытались возвеличить роль партизан «Чёрного Кота», она не шла ни в какое сравнение с массовым партизанским движением против немецко-фашистских захватчиков и их прислужников.

В годы Отечественной войны только в бывшей Барановичской области действовало 113 партизанских отрядов, в которых насчитывалось 18,5 тыс. народных мстителей. Партизанское движение было глубоко народным и интернациональным. Среди партизан было 11800 чел. белорусов, 1670 женщин. Вместе с белорусами против фашистов сражались 4 тыс. русских, 800 украинцев, более 2 тыс. человек других национальностей. Только советским партизанам было под силу проводить крупномасштабные операции против немецких захватчиков, таких как - «рельсовая война», разгром немецких гарнизонов. Жители Новогрудского района хорошо помнят, когда партизанская бригада им.Дзержинского, в которой насчитывалось 1052 бойцов в начале июля 1944 г. разгромила немецкий гарнизон в г.п. Любча и удержала его почти до прихода Красной Армии.

Таких операций партизаны «Чёрного Кота» не могли проводить. Это были разрозненные диверсионные группы, которые состояли из остатков разгромленных Красной Армией отряда Армии Краевой, бывших прислужников фашистского режима и засланных диверсантов из-за рубежа, это были не партизаны, а бандиты. Они занимались главным образом террором, убивали мирных жителей.

Так от рук бандитов в 1944-1950гг. на территории Новогрудского района погибли:

Аношка Иван Степанович, 1896 г.р., депутат Отминовского с/с, убит 22.01.1946 выстрелом через окно в своём доме на хут.Попоки.

Гуща Филипп Тимофеевич, депутат Осташинского с/с. Убит 11.11.1949 г. у своего дома выстрелом через окно.

Казак Александр Александрович, депутат Верского с/с. Убит в августе 1946г.

Филиппович Василий Демьянович, житель д.Сенно, член участковой избирательной комиссии, убит 26.02.1946г. в своем доме выстрелом через окно.

Колесник Геннадий Николаевич, уполномоченный по МВД, убит 07.02.1946 г.

Вот на что способны были «партизаны» «Чёрного Кота». Разумеется, местные жители их не поддерживали, а наоборот, способствовали быстрейшему их уничтожению.

Сейчас они требуют реабилитации. За что? Людская кровь не водица. За совершение преступления надо отвечать по закону.

**Жители Новогрудка и Новогрудского района, ветераны войны и труда.**

### АД РЭДАКЦЫІ

**Гэта вельмі сумна, але мы, на жаль, дрэнна ведаем сваю гісторыю. Таму і ўзьнікаюць непаразуменьні паміж прафесійнымі гісторыкамі і прэзідэнтам, таму й атрымліваюць рэдакцыі розных сродкаў масавай інфармацыі абуральныя лісты «ветэранаў вайны і працы» накшталт надрукаванага. Дзе шукаць праўду?**

Ліст ветэранаў з Навагрaдку нам пераслалі калегі з «Гродзенской праўды», бо артыкулы маладога дасьледчыка Сяргея Ярша друкаваліся менавіта ў «Пагоні». Рэдакцыя катэгарычна абвяргае абвінавачаньні ў свой адрас з боку шаноўных ветэранаў НКУС-МГБ у безапеляцыйнай хлусьні ды спрыяньні рэабілітацыі бандытаў. Наша задача ўзьняць праблему, закрануць найбольш спрэчныя і контраверсійныя пытаньні, на якія ўрэшце рэшт шырокая грамадзкасьць павінна атрымаць праўдзівы і аргументаваны адказ. Інакш мы застанемся ў палоне легенд, плётак і стэрэатыпаў савецкай гісторыі.

Друкуючы атрыкулы Сяргея Ярша, у якіх, безумоўна, шмат рамантызацыі, мы паспрабавалі зьняць табу з «антыбальшавіцкага супраціву на Беларусі» і заахвоціць прафесійных дасьледчыкаў да падрабязнага і грунтоўнага асьвятленьня гэтай тэмы ў друку. Бо шмат яшчэ белых плямаў застаецца ў нашай нядаўняй гісторыі. А да архіваў КДБ і Саўміну мае доступ вельмі вузкае кола людзей, якія, пэўна, не жадаюць, каб усе ведалі праўду.

Што тычыцца паўстанцкай арміі «Чорны Кот» і ейнага правадыра генерала Вітушкі, дык пра іх ужо ня раз пісалася. Згадайма артыкулы В.Салаcюка «Выстрелы из прошлого» («Коммунист Белоруссии», 1990, N 5), А.Міхальчанкі «Белорусская символика: традиции и современность» («Сов. Белоруссия», 25.11.90), С.Жумара «Армия Краёва: свет или тени?» («Рэспубліка», 28.10.92) і «Освобождение после освобождения» («Сов.Белоруссия», 26.08.94). Спрэчным застаецца пытаньне пра «Бітву за Навагрaдак», бо выклікаюць сумнў лічбы, прыведзеныя і ў лісьце ветэранаў з Навагрaдку, і ў артыкуле Сяргея Ярша. Але малады дасьледчык тут нічога сам не прыдумаў, а працытаваў урывак з успамінаў удзельніка тых падзей. Дарэчы, рэдакцыя мае ксэракопію газеты «Беларуское слова», якая выходзіла ў Нямеччыне, за 15.09.1949 г. з гэтымі ўспамінамі. Так што абвінавачаньні рэдакцыі ў хлусьні ці сьвядомым скажэньні гісторыі абсалютна беспадстаўныя і недарэчныя.

І яшчэ адзін нюанс, на які можна было б і не зьвярнуць увагі. У рэдакцыі стварылася ўражаньне, што гэты абуральны ліст напісаў адзін чалавек, нягледзячы на прыведзеныя ніжэй сем прозьвішчаў і чамусьці шэсьць подпісаў.

 







## УСПАМІНЫ

*Антон ФУРС*

# МЫ ЗАЎСЁДЫ ЛІЧЫЛІ СЯБЕ БЕЛАРУСАМІ

**Нягледзячы на гвалт і прымус з боку прышлых уладаў - расейскіх, польскіх ці нямецкіх акупантаў, - сьвядомыя беларусы заўсёды заставаліся вернымі сваёй незалежніцкай ідэі, захоўвалі сваю мову і культуру. Пра гэта - успаміны Антона Фурса, аднаго з актыўных удзельнікаў Саюзу Беларускіх Патрыётаў (СБП).**

Я быў сябрам СБП, адным са стваральнікаў гэтай арганізацыі і потым сакратаром Глыбоцкай групы.

Каб больш было зразумелым, як мы ў той няпросты і нялёгкі час для беларускага народу прыйшлі да беларускасьці, трэба зьвярнуцца ў мінулае, хаця б на два пакаленьні назад.

Дзед мой Касьцюк быў безьзямельным і таму трымаў «запашку» у мясцовага сьвятара. Сям'я была вялікая: тры сыны і тры дачкі. Сыны (у тым ліку і мой бацька) скончылі царкоўна-прыхадзкую школу. На той час гэта была значная адукацыя. Старэйшы з іх - Васіль - пры ўсіх уладах быў начальнікам пошты ў мястэчку Язна. Праўда, палякі ў апошнія гады вельмі насядалі, каб ён хаця б прыняў каталіцкае веравызнаньне, бо інача мог страціць працу. Ішла непрыхаваная дыскрымінацыя беларусаў.

Сярэдні сын - Антон - крыху дапамагаў па гаспадарцы і займаўся выпадковымі прыробкамі.

Бацька мой, Віктар, абрабляў зямлю. Вельмі многа прыходзілася працаваць, бо кавалак зямлі быў не малы. Жылі нядрэнна ў матэрыяльным плане.

Але ж нягледзячы на гэта, бацька жыў увесь час думкаю, каб займець сваю зямлю. Пакрыху сабралі грошы, і зямля была набыта незадоўга перад вайной. Нядоўга мы цешыліся сваёй гаспадаркай, бо пасьля вайны ўсё было забрана ў калгас і мы зноў засталіся ні з чым. Гэта была вялікая трагедыя для ўсёй сям'і. Прыпамінаецца такі выпадак, калі бацька прыйшоў са сходу, дзе яго прымусілі падаць заяву ў калгас. І, хоць да гэтага часу ён ніколі ня крыўдзіў маці, і я ніколі ня чуў ад яго брыдкага слова, на гэты раз ён быў так разьюшаны, што калі маці несла два вядры вады на кухню, ён нечакана пхнуў вядро з вадой нагою, і вада заліла ўсю хату. Мы ніяк не маглі зразумець, што ж сталася? А потым ён сеў на канапу і доўга сядзеў моўчкі з безнадзейным выглядам.



*Заходнебеларускія сяляне з вёскі Яцьвезь*

Усе мае родзічы па бацьку былі праваслаўнымі. Потым усе перамяшаліся: адны жаніліся на каталічках, другія выходзілі замуж за каталікоў. Мая маці таксама была каталічкай. Але ж на гэтай глебе ніколі не было асаблівых непаразуменьняў. Калі, напрыклад, ксёндз не хацеў спавядаць маці толькі таму, што выйшла замуж за праваслаўнага, дык яна хадзіла да споведзі ў царкву да бацюшкі.

Наколькі я памятаю, усе карысталіся толькі беларускай мовай, другой нават і ня ведалі. Ашчадна адносіліся да традыцый і сьвятаў, як рэлігійных, так і народных.

Палітыкай цікавіліся мала. І ці гэта сьпярша быў «дзядэк» Юзэф, ці потым «отец» усех народаў, - для іх гэта было чымсьці чужародным і далёкім.

Нарадзіўся я ў мястэчку Язна, гэта 15 кіламетраў ад г.Дзісны. Тут прайшло маё досыць раднасае дзяцінства. Вучыўся ў 7-гадовай польскай школе. Вядома, што нас, дзяцей, усялякім чынам хацелі зрабіць палякамі. Але ж гэта ім вельмі дрэнна ўдавалася. Па-польску мы размаўлялі толькі на лекцыях, а па-за школай ужо не.

У школе дзейнічалі польскія арганізацыі як: харцэжы, стршэльчыкі. Харцэжам і я быў некаторы час, але ў другіх арганізацыях - не. Выключэньне - гэта СБП.

Паланізацыя ішла поўным ходам, але жі ў гэтых абставінах частка моладзі рабіла нейкія захады, каб захаваць сваё Я і сваю нацыянальную годнасьць. Помніцца, яшчэ да вайны сіламі актывістаў у нашым мястэчку была пастаўлена п'еса «Зьбянтэжаны Саўка». Як жа ўсе былі рады, а асабліва мы - дзеці. А як жа прыгожа сьпявалі валачобнікі, жнеі і інш. А якімі ж незабыўнымі былі сьвяты Вялікадня, Калядаў, Спаса (гэта быў фэст у Язьне).

Менавіта ўсё гэта разам узятае і не давала нашаму народу згубіць сваю самабытнасьць і мову.

У апошнія гады польскага панаваньня шмат хлопцаў-юнакоў, асабліва з бяднейшых сем'яў, перайшлі польска-савецкую мяжу. Яны думалі, што там у сваёй роднай, свабоднай Беларусі знойдуць сваё шчасьце. Усё атрымалася наадварот - усіх іх аб'явілі польскімі шпіёнамі і зьнішчылі, як панішчылі лепшых сыноў нашай зямлі.

Калі мне было 10-12 год, у нашым доме нейкім чынам зьявіўся часопіс «Калосьсе». А, магчыма, яго выпісваў бацька - зараз ня памятаю.

З задавальненьнем я перачытваў яго (я ведаў ужо кірыліцу) і ўжо тады ў мяне зарадзілася нешта цёплае, роднае. Хаця ўсяго гэтага я яшчэ і ня мог асэнсаваць. Але зерне ўжо было кінута і прарасло яно ўжо ў 7 класе. Аб гэтым гаворка будзе далей.

А цяпер - 17 верасьня 1939 года - дзень уз'яднаньня, дзень, які большасьць беларусаў так доўга чакала...

Зьявіліся першыя танкі, ня вельмі самавітыя танкісты, прывітаньні, кветкі, «Кацюша». Савецкія вайскоўцы неяк насьцярожана паглядалі на людзей, што сустракалі іх. Я думаю, што гэта было таму, што вызваленыя з-пад панскага ярма былі добра, сьвяточна апранутыя, і, відавочна, жылі лепш, чым вызваліцелі.

Нездарма, калі салдаты бачылі тоўстае ў далонь сала, то пыталіся, ці не склеенае яно.

Армія пайшла на захад, бо не было ніякага супраціву, а замест іх зьявіліся розныя палітрукі, сьледчыя - будучыя каты.

Цэлымі днямі далдонілі аб тым, як яны шчасьліва жывуць і мы таксама так будзем жыць. Усе развучыліся па-чалавечы гутарыць - толькі лозунгі і цытаты. З-за гэтых частых мітынгаў у некаторых гаспадароў зазімавала ў барознах бульба.

Апусьцелі крамы. Калі раней іх было каля 10, дзе гаспадарылі яўрэі, то цяпер была адна крама і тая пустая. Для таго, каб набыць хоць які-небудзь неабходны тавар, трэба было займаць чаргу з вечара і на цэлую ноч. І калі пашанцавала, то бралі ўсё, што давалі і колькі давалі. Бацька неяк прывёз вялікую скрыню мыла, другі раз -шакаладных цукерак, таксама вялікую скрыню.

Людзі сталі задумвацца і разважаць аб новым «шчасьлівым» ладзе.

Шмат клопатаў было і ад савецкіх чыноўнікаў. У мястэчку ў той час не было ні сталовак, ні чайных, дзе б яны маглі сілкавацца. І вось прыходзілі да больш заможных сялян і тым трэба было іх карміць ды паіць. А паспрабуй адмовіць. Зараз жа знойдуць кампрамат. Аднойчы ў нашай хаце быў такі «госьць» больш высокага раённага ўзроўню. Пад вечар, калі сядзелі за сталом, раптоўна голасна дзесьці засьпяваў певень. Маці кажа: «Певень сьпявае, пэўна перамена будзе!» Наш захмялелы «госьць» як ускопіцца ды да маці з азьвярэлым выглядам:

- Якая перамена!

Відавочна, ён падумаў, што маці мае на ўвазе перамену ўлады. Насілу яму ўталкавалі, што певень пяе на перамену надвор'я.

Ну што з іх возьмеш. Гэта ж былі малапісьменныя, амаральныя, ідэалагічна закамплексаваныя людзі.

Чым далей, тым станавілася ўсё горш і страшней.

Кудысьці пачалі зьнікаць людзі, у тым ліку і нашы настаўнікі. На поўную моц запрацаваў канцлагер у Беразьвеччы ў Глыбокім. Туды якраз і папаўся мой дзядзька па маці. Віна яго была ў тым, што ён працаваў вартаўніком у старостве (павятовай управе). Потым, у 1941 годзе пры адступленьні ён будзе закатаваны. А колькі там закатавана нашых людзей - аднаму Богу вядома. Паралельна з арыштамі пачаліся вывазы людзей у Сібір, Казахстан. Вывозілі звычайна асаднікаў, чамусьці лясьнікоў і іншых, больш заможных.

Памятаю адну сям'ю лясьніка. У яго было 6 дзяцей, жыў бедна і малым дзецям не было чаго абуць на ногі. Мусілі ўкручваць іх рознымі дзяружкамі. Страшна і балюча было на ўсё гэта глядзець. І ў дадатак іх жа, такіх няшчасных, яшчэ і павезьлі некуды ў мароз і голад. Нездарма сярод людзей бытуе такая байка: «Адзін у другога пытае:

- Якія саветы былі лепшыя: першыя ці другія?

- Першыя, - адказвае.

- А чаму?

- Бо першыя прыйшлі і хуценька адышлі».

Зьявіліся першыя калгасы. Большасьць сялян адмоўна да іх аднеслася. Папулярнай у нас у той час была прыпеўка:

*У калгасе добра жыць,*
*Адзін робіць, сем ляжыць.*

Школа ў Язьне была па назве беларускай, але па духу з кожным днём яна станавілася расейскай. Настаўнікі пераважна былі прысланы з усходу і яны добра праводзілі гэтую справу. У сувязі з усімі гэтымі абставінамі ў нашых душах пачаў нараджацца нейкі пратэст і незадавальненьне, якое ў будучым атрымала пэўнае асэнсаваньне.

Вось так і закончыўся перыяд «Першых саветаў».

1941 г, чэрвень. На нашу зямлю прыйшла вайна. Нея кня надта прыкметна, без выстралаў, без праліцьця крыві. З нашай мясцовасьці адыйшлі адны «асвабодители» і прыйшлі новыя. Большасьць людзей ня вельмі сумавала па першых і ня радавалася другім, бо за адно нават пакаленьне некалькі разоў мяняліся ўлады, а людзі ведалі, што чужынцы ніколі і нічога не прынясуць ім добрага.

Сьпярша ўсе пасады на месцах былі занятыя палякамі. Беларусы, як заўжды, праспалі. Была пагроза, што людзям будзе навязаны падвойны прыгнёт - як з боку нямецкай адміністрацыі, так і з боку палякаў. Такое становішча было няя доўгім. З нейкіх меркаваньняў акупацыйных улад польская адміністрацыя была заменена беларускай. У большасьці сваёй гэта былі не выпадковыя людзі, а сьвядомыя. І яны ішлі на службу не для таго, каб фашыстам, а каб служыць свайму народу, спрыяць захаваньню тых парасткаў беларускага адраджэньня, якія ўсё больш і больш гінулі ў часы саветаў.

Былі аднаўлены заняткі ў Язьненскай сямігодцы. Дырэктарам школы стаў Ігнат Мятла. Ён брат таго самага Пятра Мятлы, які разам з Тарашкевічам, Рак-Міхайлоўскім і іншымі быў паслом польскага сэйму, потым арыштаванага палякамі, абмененага на польскіх вязьняў, якія знаходзіліся ў савецкіх турмах і, нарэшце, расстралянага бальшавікамі.

Дагэтуль Ігнат Мятла жыў з сям'ёй у Вільні. Калі не памыляюся, то быў загадчыкам беларускай кнігарні.

Вялікі патрыёт, адукаваны і інтэлігентны, добры арганізатар і музыка (граў на скрыпцы) - вось няпоўныя рысы гэтага сумленнага чалавека.

У выхаваньні вучняў, у тым ліку і патрыятычным, вялікую ролю адыгралі выкладчыкі сямігодкі Вольга Дук і Ліда Сініца. Гэта былі яшчэ маладыя асобы, выпускніцы Віленскай беларускай гімназіі.

Язьненская школа становіцца важным асяродкам культурнага жыцьця. Ствараецца струнны аркестр, хор. Выязджаем з канцэртамі ў многія вёскі. Прымаюць шчыра, з захапленьнем. Вялікі посьпех мелі і дэкламацыя вершаў беларускіх пісьменьнікаў. Асабліва посьпехам карысталіся радкі Я.Коласа з паэмы «Сымон Музыка», верш Я.Купалы «Не пагаснуць зоркі ў небе» ды інш.

Навучаньне ў школе вялося выключна на беларускай мове, акрамя нямецкай мовы, якую выкладалі пару гадзін на тыдзень. Руская мова наогул была выключана з ужытку як у школах, так і ва ўсіх установах, у друку і г.д.

Вось чаму так хутка, за які-небудзь год, усе выдатна валодалі роднай мовай, і ня трэба было ніякіх законаў аб мове, а толькі гарачае жаданьне тых, што кіруюць намі. На жаль, мы ня бачым гэтага сёньня.

З нашай школы выйшла шмат нацыянальна сьвядомых людзей, напрыклад, Васіль Мядзялец, Лявон Бялевіч, Алесь Юршэвіч, Пётр Сьпіркові, Антон Фурс. Усе яны потым сталі членамі Саюзу Беларускіх Патрыётаў (СБП). Быў сярод нас Алесь Александровіч, татарын па нацыянальнасьці, але адданы беларускай справе. Потым ён быў арыштаваны ў Ніжнім Ноўгарадзе, засуджаны на 25 год, з заключэньня вярнуўся інвалідам.

У школе мы ўпершыню пачалі вывучаць сапраўдную гісторыю Беларусі і геаграфію (В.Ластоўскага) і ўпершыню пазнаёміліся з творамі раней забароненых пісьменьнікаў і паэтаў М.Гарэцкага, Ф.Аляхновіча, А.Гаруна, Л.Геніюш і інш. Сапраўднае знаёмства з гэтым адкрыла нам новы жыватворчы сьвет, які мы потым пранесьлі праз усё сваё жыцьцё.

На жаль, школе праіснаваць доўга не давялося. Пачаўся партызанскі рух, а яны, як вядома, варожа ставіліся да ўсяго беларускага. Настаўнікі і дырэктар павінны былі разьехацца хто-куды, і школа прыпыніла сваё існаваньне. А незадоўга да канца вайны школу спалілі партызаны, як і многія лепшыя будынкі нашага мястэчка.

Цяпер часта тых людзей, якія пры акупацыі шчыравалі на ніве адукацыі, культуры, на ніве ідэй адраджэньня, называюць здраднікамі. А як жа называць тых, якія верна служылі царызму, палякам, таталітарнаму савецкаму рэжыму? Тых, хто сёньня у незалежнай Беларусі нават адмаўляюць у існаваньні беларускай нацыі і гісторыі, мовы (яны ратуюць за «двуязычие»)? Дык хто яны, як называць іх?

**(Працяг у наступным нумары).**

 

# СЛАЎНЫЯ ТРАДЫЦЫІ ТУМАННАГА АЛЬБІЁНУ ПЕРААДОЛЬВАЮЦЬ ЛА-МАНШ

**Калі ангельскія клубы ствараліся выключна для прадстаўнікоў моцнай паловы чалавецтва, то айчынныя не забываюцца на чароўную частку. Так, ужо другі год працуе ў Новым Замку жаночы клуб «Сучасьніца».**

**Псіхалагічныя тэсты, праца па самаўдасканальваньню праводзіліся кандыдатам псіхалагічных навук, выкладчыцай ГрГУ Вербавай К.В. Художнік-мадэльер Л.Г.Пільнік зацікавіла сакрэтамі стыля і мадэліраваньня аддзеньня. Праблемы здароўя і прыгажосьці дапамаглі вырашыць урач-тэрапеўт медыцынскага аб'яднаньня «Віватон» Т.Л.Валуйскава, касьметолаг Л.А.Ціханенка. Не абыйшоў сваёй увагай жанчын і вядомы ў горадзе цырульнік-мадэльер У.Няфёдаў.**

Адна з арганізатараў клуба «Сучасьніца» - Ганна Іванаўна Кучарэнка -з ахвотай згадзілася расказаць пра вынікі і персьпектывы працы.

**- У вас ужо склаўся пастаянны склад «ветэранаў» клуба. Ці зьмяніліся гэтыя жанчыны праз год сустрэч?**

- Самае галоўнае і радаснае для нас, арганізатараў - бачыць на ўласныя вочы, што ўсе яны сталі блізкімі людзьмі і знайшлі ў нас цеплыню і багацце чалавечых зносін. Гэта менавіта тое, чаго ўсім нам зараз не хапае. Акрамя гэтага, кожная жанчына раскрывае свае здольнасьці з самых розных бакоў - ад пісаньня вершаў да арганізацыі сумесных пікнікоў.

**- Што вы лічыце галоўным для сучасных жанчын?**

- Заўсёды заставацца жанчынай, захоўваць надзею, не бурчаць, радавацца жыцьцю, а на цяжкасьці глядзець адным вокам і скрозь пальцы.

**- Але ж гэта нейкі ідэал Прыгожай Дамы? На самой справе ўсё далёка ня так...**

- Вельмі шкада, але сапраўды на нашых вуліцах не адныя каралеўны...

**- Чаго ж ім не хапае, няўжо казачнага прынца?**

- Не, усё нашмат прасьцей. Нам проста не хапае часу на сябе і на сваю сям'ю. За неўладкаванасьцю быту не заўсёды пасьпееш і вусны падмаляваць, ня тое што наведаць салон прыгажосьці.

**- Але ж кожная з удзельніц клуба заваророжвае індывідуальнай абаяльнасьцю.**

- Крыніца нашай прыгажосьці ў простых ісьцінах. Не імкніся зьмяніць блізкага чалавека, а прымай і любі яго такім, які ён ёсьць. Галоўнае - зразумець і дапамагчы адно аднаму. Гэта і дапаможа нам выстаяць.

**Гутарыла Алена СІНЕВІЧ.**

# НАРЭШЦЕ БІЗНЭС ПАДТРЫМАЎ ФОТАМАСТАЦТВА

**На мінулым тыдні ў выставачнай зале Саюзу мастакоў Беларусі адбылося ўрачыстае адкрыцьцё выставы фатаграфіі ўдзельнікаў фотапланэру «Сьвіцязь-95», арганізаванае фотаклубамі «Гродна» і «CLassic-Studio» з Беластоку. У імпрэзе ўзялі ўдзел прадстаўнікі найбуйнейшых у сьвеце фатаграфічных фірмаў «Кодак», «Фуджы» і «Палярoід».**

Выстава фатаграфій майстроў з Беларусі і Польшчы прысьвячаецца Эўрапейскаму Году Аховы Прыроды. Нездарма фотапленэр праходзіў 22-25 чэрвеня ў маляўнічых мясьцінах ля знакамітага возера Сьвіцязь. Мастакі з Беластоку, Менску, Горадні ды іншых гарадоў мелі на мэце прыцягнуць увагу шырокай грамадзкасьці да Сьвіцязі, паказаць пershародную чысьціню і прыгажосьць, якую мы можам страціць. У пэўным сэньсе першы міжнародны фотапленэр меў экалагічную афарбоўку. І таму вельмі прыемна, што акрамя ініцыятараў акцыі - Навагрудзкага гарвыканкаму і фотаклубу «Гродна - добрую справу падтрымалі фундатары - найбуйнейшыя фатаграфічныя фірмы.

На адкрыцьці выставы мэр Горадні Г.Крупенка і мэр Навагрудку Г.Бака ўручылі дыпломы ўдзельнікам фотапленеру. Галоўны прыз атрымаў гарадзенец Міхаіл Анішчанка. Фірма «Дайнова» адзначыла працы польскага фотамастака Хенрыка Рагазінскага. Парадавалі гледачоў і каляровыя працы сяброў фотаклуба «Гродна» - Уладзіміра Біліды, Ігара Каршунава, Юрыя Палуцкага. Мабыць таму ў якасьці прыза фірма «Кодак» ахвяравала мясцоваму фотаклубу рулон каляровае паперы.

**Людвік САРОКА.**



## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ДАДУМАЎСЯ

Цяжка сказаць, на што разьлічваў раней асуджаны «бомж» Л., калі адбіраў у грамадзяніна Польшчы грошы (30 долараў ЗША, 750 тысяч польскіх злотых і 60 тысяч рублёў). І дзе вы думаеце ён гэта рабіў? На аўтобусным прыпынку «ДАІ» па вуліцы Белуша ў Горадні. Скончылася гэта затрыманьнем рабаўніка і ўзбуджэньнем крымінальнай справы.

### ІЗНОЎ "КУКЛА"

Колькі работнікі міліцыі не папярэджваюць людзей пра магчымасьць падману з дапамогай «куклы» пры разьліку, некаторыя думаюць, што з імі такое ня здарыцца.

У Лідзкі РАУС быў вымушаны зьвярнуцца жыхар вёскі Крупава пасьля таго, як пры продажы аўтамашыны «Форд» па даверанасьці ён атрымаў ад жыхара Грузіі замест 5000 долараў ЗША «куклу», у якой быў...151 долар. Махляр разам з другім каўказцам на машыне ад'ехалі.

### ХЛОПЧЫК У СКРЫНІ ЗНАЙШОЎ ПІСТАЛЕТ...

Васьмігадовы хлопчык, знаходзячыся ў бабулі ў Астравецкім раёне і гуляючы з хлопчыкам і дзяўчынкай у доме мясцовага жыхара, знайшоў у скрыні секцыі газавы драбавы пісталет. Ён націснуў на курок. У выніку параніў у галаву дзяўчынку, якую потым давялося зьмясьціць у бальніцу.

### ФАЛЬШЫЎКІ «ЗАСЬВЯЦІЛІСЯ» У ГОРАДНІ

Звыш трох мільёнаў падробленых рублёў Банку Расеі вартасьцю па 50 тысяч і 8 патронаў да пісталета «ТТ» былі знойдзены пры вобыску ў кватэры жыхаркі Горадні. Гэтую кватэру здымаў жыхар Масквы, раней асуджаны, які затрыманы. А выйшлі на яго пасьля таго, як у абменным пункце жыхарка Горадні спрабавала абмяняць 10 фальшывых купюр вартасьцю 50 тысяч расейскіх рублёў.

**А.ЛЯХ.**

## СПОРТ

# КРЫЛАТЫЯ «КАРДАНЫ» КРЫХУ НЕ ДАЛЯЦЕЛІ...

Да апошняга тура чэмпіянату краіны па футболе ў II лізе гарадзенскія заўзятары спадзяваліся, што ў I лізе стане яшчэ на адну каманду з нашай вобласьці больш. Увесь сезон ў лідарах хадзіў «Кардан Флаерс», але крыўдныя страты ачкоў у сустрэчах з «Лакаматывам», «Камунальнікам», «Фамальгаўтам» на фінішы чэмпіянату адыгралі сваю ролю. У апошнім туры толькі цуд у выглядзе паражэньня ці нічыі «Камунальніка» ў сустрэчы з аўтсайдэрам «Кімаўцам» ды перамога ў Магілёве над «Трансмашам» выводзілі б нашую каманду на запаветнае другое месца. Але... «Камунальнік» выйграў, а «Карданы» дамагліся толькі нічыёй 1:1. Слабым суцяшэньнем заўзятарам каманды стала перамога Сяргея Саладоўнікава ў спрэчцы бамбардзіраў. На яго рахунку - 11 галоў у 14 гульнях.

Што да астатніх камандаў вобласьці, то зазначым, што ўсе яны выступілі ў сілу сваіх на сёньняшні дзень магчымасьцей.

*За мяч змагаецца Віктар Юйко*

**Турнірная табліца II лігі:**

| | І | М | О |
|---|---|---|---|
| 1. «Нафтан-Дэвон» | 14 | 29-14 | 32 |
| 2. «Камунальнік» | 14 | 22-13 | 29 |
| 3. «Фамальгаўт» | 14 | 24-13 | 28 |
| 4. «Кардан-Флаерс» | 14 | 28-18 | 27 |
| 5. «КПФ-Слонім» | 14 | 25-15 | 26 |
| 15. «Хімвалакно» | 14 | 7-25 | 4 |

**В.РУДНІК.**
**ФОТА Я.ВАНЮКЕВІЧА**

# ЦІ ДАПАМОГУЦЬ РОДНЫЯ СЬЦЕНЫ?

**СПАРТАКІЯДА КРАІНЫ: Баскетбол: мужчыны - першыя, жанчыны - другія. Валейбол: мужчыны - першыя, жанчыны - другія. Гандбол: мужчыны - апошнія, жанчыны...**

3 лістапада ў Горадні стартуе турнір гандбалістак у праграме Спартакіяды Беларусі. Чакаць ад гарадзенскіх дзяўчат такога ж посьпеху, як ад баскетбалістак ці валейбалістак, наўрад ці варта - суперніцы з Менску і Гомеля сёньня крыху мацней. Аднак пераўзыйсьці ў родных сьценах «дасягненьне» нашай мужчынскай гандбольнай каманды можна і трэба

**В.Р.**

# ВЫКЛАДЧЫКАМ УНІВЕРСІТЭТУ «УШПІЛІЛІ» ПАД ЛАПАТКУ

**Апошнім часам па Горадні пачалі распаўсюджвацца чуткі аб росьце колькасьці хворых на дыфтэрыю і нават пра сьмяротныя зыходы. Спрыялі гэтаму і абавязковыя прышчэпкі, якія праводзяцца зараз у горадзе. 31 кастрычніка, у прыватнасьці, прышчаплялі выкладчыкаў універсітэту.**

За тлумачэньнямі мы зьвярнуліся ў гарадзкую санітарна-эпідэміялагічную службу, дзе нам паведамілі, што падставаў для панікі пакуль няма. У параўнаньні з іншымі рэгіёнамі краіны, абстаноўка з дыфтэрыяй на Гарадзеншчыне спакойная. Тым ня менш, пачынаючы з ліпеня, згодна з загадам Мінздраву, сапраўды праводзяцца абавязковыя прышчэпкі «групаў рызыкі» - выкладчыкам школ, ВНУ, выхавацелям дзіцячых садкоў, медперсаналу і г.д. Зараз гэтая кампанія актывізавалася, бо прывезьлі, нарэшце, неабходную колькасьць вакцыны.

Што ж датычыць універсітэту, то да нядаўняга часу сітуацыя з вакцынацыяй тут была найгоршай у горадзе - прывітымі былі толькі 15% выкладчыкаў. Вось табе і самыя дасьведчаныя людзі! А можа, уколаў баяцца?

**В.МАЛЬСКІ.**

# АУКЦЫЁН У ЛІДЗЕ

31 кастрычніка прайшоў III аўкцыён па продажу камунальнай маёмасьці. На продаж выстаўляліся 6 аб'ектаў, але пакупнікі знайшліся толькі на два: за 550 мільёнаў пры стартавым кошце у 184 мільёны была прададзена прамтаварная крама N 13 па вуліцы Кірава і за 125 мільёнаў (пачатковы кошт 117 мільёнаў) - кулінарная N 4 па вуліцы Машэрава.

**С.СУДНІК.**

# СПОРТ АДНЫМ РАДКОМ

30 і 31 кастрычніка хакеісты гарадзенскага «Нёмана» двойчы сустракаліся ў Электрэнаі з мясцовай «Энэргіяй». Лік сустрэчы - 7:1 і 6:2 на карысьць беларускай каманды. 4 і 5 лістапада на сваёй пляцоўцы «Нёман» будзе прымаць жлобінскую «Белсталь».

На апошніх секундах гульні вырвалі перамогу ў брэменскага «Вердэра» футбалісты менскага «Дынама». Лік сустрэчы - 2:1. Галы ў нашай каманьдзе забілі Аляксандр Хацкевіч і Юры Шуканаў. У складзе «Дынама» у гульні браў удзел выхаванец лідзкага футболу Дзьмітры Макаранка.

Пачэснае 5-е месца на прэстыжным марафоне ў Франкфурце-на-Майне заняла гарадзенка Галіна Барук.

Меўшая адбыцца 3 лістапада сустрэча А.Дубко з кандыдатамі на паездку на Алімпійскія гульні 1996 года перанесена на 13 лістапада.


ПАГОНЯ
Рэдактар МІКОЛА МАРКЕВІЧ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА"


Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: (0152) 45-29-96, 45-41-83
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-453-714


Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры перадруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ
Наклад 8936 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку , у 16.00